ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 46 (2292) 12 лістапада 1992 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

*ДА 110-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА*



**Нарадзіўся я ў 1882 годзе 22 кастрычніка (па старому стылю) ва ўрочышчы Акінчыцы, недалёка ад сяла Мікалаеўшчына (зараз Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці). Бацькі мае — Міхась Казіміравіч і Ганна Юр'еўна Міцкевічы — былі малазямельныя сяляне. У Акінчыцах бацька служыў лесніком у князя Радзівіла — польскага магната. Чалавек ён быў невялікай адукацыі: умеў распісацца, чытаць па-польску і па-руску. Разбіраў нават рукапіс. Маці мая, Ганна Юр'еўна, з Лёсікаў, зусім няграматная, але разумная ад прыроды і добрая жанчына... Мой бацька і маці — сяляне з вёскі Мікалаеўшчына...**

**Я. КОЛАС,**
**«Аўтабіяграфія».**

**Фотарэпартаж, прысвечаны юбілею Якуба Коласа, змешчаны на 6-й стар.**

*СТАРОНКІ МІНУЛАГА*

## БЕЛАРУСЬ НА СУСВЕТНЫХ ВЫСТАЎКАХ XIX СТАГОДДЗЯ

Гісторыя сусветных выставак бярэ свой пачатак у сярэдзіне мінулага стагоддзя. Ужо тады яны ўражвалі сучаснікаў размахам, універсальнасцю, колькасцю экспанатаў і наведвальнікаў. Да канца стагоддзя іх адбылося дзевяць: чатыры ў Парыжы — у 1855, 1867, 1878 і 1889 гадах, дзве ў Лондане — у 1851 і 1862 гадах, па адной у Вене (1873 год), Філадэльфіі (1876) і Чыкага (1893). Своеасаблівы вынік поспехам стагоддзя падвяла парыжская сусветная выстаўка 1900 года. Ва ўсіх гэтых аглядах тэхнічнага прагрэсу і навукі (акрамя выстаўкі 1855 года) прымала актыўны ўдзел Расія, а ў складзе яе аддзелаў і павільёнаў — і Беларусь.

Выстаўкі — гэта заўсёды рэклама. Менавіта таму вядучую ролю на іх адыгрывалі экспанаты прамысловай вытворчасці. Ад выстаўкі да выстаўкі расла колькасць фабрык і заводаў Беларусі, якія пасылалі ўзоры сваёй прадукцыі.

Першым буйным беларускім прадпрыемствам, прадстаўленым на сусветнай выстаўцы, быў Чачэрскі шклозавод графа Чарнышова (Лондан, 1862 год). У дзвюх яго шклаварных печах штогод выраблялася да 10 тысяч бунтоў аконнага шкла розных гатункаў на суму 38 тысяч рублёў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

*«ДЗЯДЫ»*




**На праспекце Францішка Скарыны ў Мінску, ля будынка Камітэта дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства ўнутраных спраў, 2 лістапада — на «Дзяды» — гарэлі свечкі ў каплічцы ў памяць тысяч бязвінных, якія сталі ахвярамі сталінскага рэжыму. «Адсюль, з будынка НКВД, пачынаўся пакутны шлях у Курапаты. Вечная памяць ахвярам бальшавіцкага тэрору».**

**(Пра дзень памяці продкаў «Дзяды» чытайце на 3-й стар.).**

МІНСК. ПЛОШЧА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

**Увесь мінулы тыдзень перад будынкам, дзе засядае Вярхоўны Савет, стаялі пікеты настаўнікаў. Яны нават на некалькі гадзін спынілі рух транспарту вакол плошчы Незалежнасці. Настаўнікі патрабавалі ад парламента выканаць прынятае ім жа рашэнне — павялічыць заработную плату. Некалькі дзён процістаяння прывялі да таго, што Вярхоўны Савет прыняў паслабляльнае рашэнне — сярэдняя зарплата педагагічных работнікаў цяпер павінна быць не меншай за сярэднюю заработную плату служачых у прамысловасці. Падкрэслім, заработная плата, а не стаўка, як патрабавалі настаўнікі і як тое ім было абяцана. Такое рашэнне парламента выклікала расчараванне. Праблемы застаюцца.**



**НА ЗДЫМКУ: настаўнікам, што сабраліся на плошчы Незалежнасці, дэпутаты «тлумачаць» прынятую Вярхоўным Саветам пастанову.**

*«І ў эканамічным, і ў палітычным, і ў культурным аспектах мы былі, ёсць і будзем побач з Расіяй, будзем самымі блізкімі суседзямі і партнёрамі. Само сабой зразумела — цяпер ужо абсалютна раўнапраўнымі, без ценю якога б там ні было дыктату з боку «большай сястры». Гэта вельмі выгадна для абодвух брацкіх народаў. Зрэшты, сказанае цалкам датычыць і нашых узаемаадносін з Украінай. Гісторыю не пераробіш, а яна за доўгія стагоддзі звязала нас моцна-моцна. Вазьміце адно такія сферы, як навука і культура: хіба мы зможам абысціся без велізарнейшага навуковага патэнцыялу Расіі? Або хіба мы зможам пачувацца эстэтычна забяспечанымі без яе вялікай мастацкай культуры? Я ўжо не кажу пра эканоміку — тут наогул усё звязана намёртва.*

*Так што браць курс на аддаленне незалежнай Беларусі ад незалежнай Расіі — гэта або, выбачайце, дзіцячая наіўнасць, або — што намнога горш — палітычны авантурызм з вельмі нядобрымі наследкамі. Думаю, мудрасць і беларускіх, і расійскіх дзяржаўнікаў будзе ў тым, каб усебаковае супрацоўніцтва між нашымі краінамі забяспечыць самай шчырай таварыскай атмасферай — на грунце поўнага ўзаемадаверу, братняй узаемапавагі і любові. Так, так — і любові! Ці, можа, хто думае, што ў адносінах да суседа і крэўнага брата лепш распальваць нянавісць?»*

*(З інтэрв'ю Ніла ГІЛЕВІЧА карэспандэнту газеты «Звязда»).*

АРХІВЫ КДБ

## ПАРТЫТУРА М. КЛАУСА

Намеснік старшыні КДБ Беларусі Валерый Кез перадаў старшыні Саюза кампазітараў, народнаму артысту рэспублікі Ігару Лучанку партытуры галоўнага дырыжора Беларускага радыёкамітэта ў 40-е гады, кампазітара Мікалая Клауса. Восенню 1948-га ён быў арыштаваны органамі НКУС і па прыгавору Ваеннага трыбунала войск МУС Беларускай акругі на 25 гадоў пазбаўлены волі. Абвінавачанні былі стандартныя: здрада Радзіме і антысавецкая агітацыя. Тады ж у музыканта забралі не толькі асабістыя рэчы, але і ноты, тэатральныя афішы, пісьмы майстроў мастацтваў.

У 1956 годзе камісія Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР знізіла вызначаны Мікалаю Клаусу тэрмін і вызваліла яго з-пад варты. А праз 10 гадоў пленум Вярхоўнага суда СССР адмяніў прыгавор за адсутнасцю саставу злачынства, і музыканта рэабілітавалі.

— Пераглядаючы справы, што захоўваюцца ў нашых архівах, — расказвае супрацоўнік КДБ Беларусі Мікалай Клімовіч, — мы выявілі нямала матэрыялаў, што маюць непасрэднае дачыненне да гістарычнай спадчыны нашага народа. І кіраўніцтва камітэта вырашыла правесці іх мэтанакіраваны пошук. Цяпер мы перадалі Саюзу кампазітараў два рамансы Мікалая Клауса, ноты, іншыя матэрыялы. У бліжэйшы час музеям, бібліятэкам, архівам плануем перадаць каштоўныя, на наш погляд, дакументы, якія дапамогуць упісаць радок, якога не хапае ў гісторыі беларускай культуры.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## ТОЛЬКІ ЗА БЕЛАРУСКІЯ ГРОШЫ

Камісія Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па каардынацыі работы і аператыўнаму вырашэнню пытанняў паралельнага абарачэння рублёў і разліковых білетаў Нацыянальнага банка Беларусі прыняла наступнае рашэнне:

У сувязі з выхадам краін Балтыі, Украіны з рублёвай зоны, з мэтай абароны спажывецкага рынку Рэспублікі Беларусь увесці пачынаючы з 10 лістапада 1992 года парадак разлікаў за ўсе харчовыя тавары, уключаючы тытунёвыя і віннагарэлачныя вырабы на прадпрыемствах рознічнага гандлю ўсіх форм уласнасці толькі за разліковыя білеты Нацыянальнага банка. У грамадскім харчаванні захоўваецца існуючы парадак разлікаў.

ВАКОЛ РЭФЕРЭНДУМУ

## ЗАЯВА АПАЗІЦЫІ

Як вядома, 29 кастрычніка Вярхоўны Савет Беларусі адхіліў прапанову аб рэферэндуме. У сувязі з гэтым парламенцкая апазіцыя БНФ выступіла з заявай. У ёй дзеянні парламента характарызуюцца як беспрэцэдэнтныя.

Вярхоўны Савет стаў на шлях адкрытага парушэння законаў, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і тым самым фактычна згубіў сваю легітымнасць, сцвярджае апазіцыя.

Мы застаёмся паўнамоцнымі прадстаўнікамі нашых выбаршчыкаў, але не лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаванні ў гэтым Вярхоўным Савеце, гаворыцца ў заяве.

Неабходнасць рэферэндуму, законна засведчаная воляй 442 тысячаў грамадзянаў Беларусі, не знятая з парадку дня. Дэпутаты апазіцыі БНФ будуць дамагацца адмены антызаконнага рашэння Вярхоўнага Савета ўсімі даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі. Рэферэндум павінен адбыцца.

НАФТАВЫ КРЫЗІС

## ПАЗБАВІЛІСЯ РАБОТЫ

З 30 кастрычніка вымушаны быў спыніцца Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод — Расія перастала прадаваць нафтапрадукты. Рост цэн на нафту прывёў да таго, што Мазырскі НПЗ мае 5,5 мільярда рублёў доўгу. 12 тысяч працаўнікоў завода пазбавіліся работы. Сацыяльнае становішча яшчэ 25—30 тысяч жыхароў Мазыра, якія звязаны праз прамысловы вузел горада з нафтаперапрацоўчым заводам, таксама пад пагрозай.

Не лепшае становішча і на Наваполацкім нафтаперапрацоўчым. Яго доўг складае 12 мільярдаў рублёў.

«ПОЛЕ ФЕРМЕРА»




**У нашай рэспубліцы фермераў яшчэ зусім нямнога, можна сказаць, нават вельмі мала. Але і гэтым нямногім не хапае тэхнікі, спецыяльных ведаў, няма сувязі адзін з адным. Для таго каб хоць у нейкай меры вырашыць гэтыя праблемы, 1 лістапада ў Палацы культуры мінскага аўтазавода адбылося арганізаванае Сялянскім саюзам Беларусі свята «Поле фермера».**

**Увазе фермераў і ўсіх, хто прыйшоў на свята, на выстаўцы-продажы прапаноўвалася разнастайная тэхніка — матаблокі, прычэпы, касілкі, мінітрактары і г. д. — усё, што так неабходна ў любой гаспадарцы. Беларускі рэспубліканскі вучэбны цэнтр правоздзіў запіс на трохмесячныя фермерскія курсы. Усім, хто цікавіўся, даваліся кансультацыі па любых пытаннях. Тыя, хто збіраецца пабудаваць дом, маглі азнаёміцца з праектамі індывідуальных катэджаў, распрацаванымі рэспубліканскім праектна-даследчым інстытутам «Белсельбудпраект».**

**Не забыліся арганізатары свята і пра гараджан: для іх быў наладжаны продаж гародніны, фруктаў, мяса, вырашчаных фермерамі, працаваў буфет. На працягу ўсяго свята на плошчы перад Палацам культуры выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці.**

**НА ЗДЫМКУ: на выстаўцы-продажы тэхнікі.**

ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ АЭС

## СПЫНІЦЬ У 1993 ГОДЗЕ

Чарнобыльская АЭС будзе выведзена з эксплуатацыі ў 1993 годзе, як і вырашыў Вярхоўны Савет Украіны. Аб гэтым заявіў прэзідэнт канцэрна «Укратамэнергапром» Міхаіл Уманец на брыфінгу для ўкраінскіх і замежных журналістаў, які адбыўся ў прэс-цэнтры Міністэрства замежных спраў Украіны.

Адказваючы на пытанне, чаму гэтага нельга зрабіць у больш кароткія тэрміны, ён назваў шэраг прычын. Па-першае, у сусветнай практыцы яшчэ не праводзілася такая аперацыя ў такія кароткія тэрміны. Важным з'яўляецца і той факт, што для спынення станцыі неабходна дастатковая колькасць цеплавой энергіі. Існуючая цяпер кацельня не можа яго забяспечыць. Патрэбна іншая, больш магутная. «Разумеючы ўзнікшую сітуацыю, мы значна скарацілі тэрміны праектавання і пачатку работ па яе будаўніцтву», — сказаў Міхаіл Уманец.

Ён паведаміў, што неадназначную рэакцыю выклікаў пуск 20 кастрычніка пасля планавага рамонту трэцяга блока ЧАЭС. Але грамадскасць загадзя была праінфармавана, што гэты блок не выводзіцца з эксплуатацыі, а толькі становіцца на рамонт.

ПРЫЗНАННЕ

## В. ШАЛЬКЕВІЧ — ЧАЛАВЕК ГОДА

Кансультатыўны савет Міжнароднага біяграфічнага цэнтра ў Кембрыджы выбраў дацэнта кафедры паліталогіі Белдзяржуніверсітэта Вячаслава Шалькевіча міжнародным чалавекам года. Гэтай узнагароды беларускі вучоны ўдастоены за серыю работ па гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі.

Шчыра віншуючы вучонага, разам з тым цешымся, што многія яго публікацыі ўпершыню ўбачылі свет на старонках «Голасу Радзімы» і былі выдадзены ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы».

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Як паведаміў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Канады ў Беларусі Майкл Рычард Бэл, канадскія кінематаграфісты зрабілі фільм пра вядомага ў свеце мастака Марка Шагала. Яны маюць намер перадаць копію карціны ў дар музею Шагала ў Віцебску, адкуль паходзіць наш славуты зямляк.

● Мітынг-рэквіем адбыўся ў Бярозе-Картузскай, дзе з 1934 па 1939 год у часы санацыйнай Польшчы існаваў самы жорсткі на тэрыторыі Заходняй Беларусі канцлагер. Праз яго прайшлі амаль 10 тысяч чалавек — беларусаў, украінцаў, палякаў — барацьбітоў за волю і нацыянальную незалежнасць. Мітынг арганізавалі Таварыства беларускай мовы і Беларускае згуртаванне вайскоўцаў.

● Устаноўчы Сойм Згуртавання беларускай шляхты, які адбыўся ў сталічным Доме літаратара, заклікаў сваіх сяброў «быць годнымі, самастойнымі ўладарамі свайго лёсу і Бацькаўшчыны». Адна з галоўных задач згуртавання — сабраць па крупінках сваю спадчыну. Кіраўніком Найвышэйшай рады ЗБШ абраны вядомы гісторык Анатоль Грыцкевіч.

● Маладзёжная патрыятычная арганізацыя «Выбранецкія шыхты» прыняла праграмную заяву, у якой, акрамя патрабавання лучнасці ўсіх беларускіх этнічных земляў, замацавання права на зямлю і займанне дзяржаўных пасад толькі за карэннымі жыхарамі краіны, ёсць і прапанова змяніць афіцыйную назву дзяржавы Рэспубліка Беларусь на Беларуская Літва.

# БЕЛАРУСЬ НА СУСВЕТНЫХ ВЫСТАЎКАХ XIX СТАГОДДЗЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Услед за гэтым шырока стала дэманстравацца прадукцыя двух самых буйных прадпрыемстваў шарсцяной прамысловасці — Парэцкай і Альберцінскай суконных фабрык. Сукно Парэцкай фабрыкі (Пінскі павет) удастоена ўзнагарод сусветных выставак 1867, 1873 і 1878 гадоў. Альберцінская суконная фабрыка (Слонімскі павет) узнагароджана «медалём за заслугі» венскай сусветнай выстаўкі.

Уладальнікам узнагарод трох сусветных выставак быў і Парэцкі цукровы завод, заснаваны ў 1861 годзе. Аснашчаны пяццю паравымі машынамі і дзевяццю дыфузійнымі апаратамі, ён адразу стаў самым магутным прадпрыемствам гэтай галіны ў Беларусі. Штогод завод выпрацоўваў да 15 тысяч пудоў патакі і рафінаду. Яго ўладальнік А. Скірмунт меў дзяржаўную прывілею на ўдасканаленні ў галіне цукровай вытворчасці.

Тэхнічныя дасягненні XIX стагоддзя ў нашага сучасніка могуць выклікаць толькі паблажлівую ўсмешку: не тыя маштабы, не тыя хуткасці, не тыя аб'ёмы вытворчасці. Але ўсё ж тэхнічны прагрэс прабіваў сабе дарогу. Яркім сведчаннем тэхнічнага пераўзбраення шэрагу галін у Беларусі з'яўляецца змяненне характару экспанатаў. Калі на першых сусветных выстаўках традыцыйная для нас лясная прамысловасць ілюстравалася толькі ўзорамі драўніны з Гродзенскай і Мінскай губерняў ды цыноўкамі сялянскай работы, то пазней Беларусь была прадстаўлена выключна фабрычна-заводскай прамысловасцю — запалкавымі фабрыкамі ў маёнтку Уна Аршанскага павета і «Маланка» ў Мінскай губерні, Адэлінскім лесахімічным заводам з Магілёўшчыны, Гродзенскай алоўкавай фабрыкай.

Можна з упэўненасцю сказаць, што ўдзел шэрагу фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў у сусветных выстаўках, прысуджэнне ім узнагарод сведчаць пра адпаведнасць іх абсталявання і тэхналогіі вытворчасці сусветнаму ўзроўню таго часу, высокую якасць прадукцыі і прафесійнае майстэрства беларускага пралетарыяту. Прычым узнагароды сусветных выставак па праву належаць не ўладальнікам графскіх тытулаў, не капіталістам і памешчыкам, а народу, чыёй працай яны заваяваны.

Што прыцягвае мільёны наведвальнікаў на сусветныя выстаўкі? Магчымасць убачыць «увесь свет» у мініяцюры, паглядзець своеасаблівы гіганцкі зрэз сусветнай эканомікі, палітыкі, культуры? Безумоўна, так. Прыняць удзел у рабоце шматлікіх кангрэсаў, з'ездаў і нарад, якія традыцыйна праводзяцца ў час выставак? Вядома, і гэта таксама.

Але ёсць і яшчэ адна — самая важная — прычына папулярнасці сусветных выставак. Іх экспазіцыі — гэта своеасаблівае акно ў будучыню, у заўтрашні дзень чалавецтва. На іх упершыню былі прадэманстраваны многія дасягненні навукі і тэхнікі, якія сталі «візітнымі карткамі» сусветных: 1851 год — Крышталёвы палац і швейная машына Зінгера, 1855 год — алюміній у злітках, 1862 год — прамысловае прымяненне каучуку, 1876 год — тэлефон Бэла і тэлеграф Эдзісона, 1889 год — вежа Эйфеля, 1893 год — дугавая электразварка рускага інжынера Н. Славянава. Парыжская выстаўка 1878 года была заліта «рускім святлом» — так сучаснікі называлі электрычную свечку П. Яблачкава.

Упрыгожвалі вітрыны сусветных выставак і тэхнічныя навінкі з беларускіх губерняў. Так, адзіным экспанатам ад Расіі па класу «Гадзіннікавыя механізмы» на лонданскай выстаўцы ў 1862 годзе быў майстар Г. Сон з Магілёва. Яго гадзіннікі з механізмам уласнага вынаходства ўдастоены ганаровага водгуку. Яшчэ больш цікавыя экспанаты ён прадставіў на наступную, парыжскую выстаўку. Гэта былі гадзіннікі з гадавым заводам, а таксама маленькі сферычны гадзіннік-бірулька ў форме невялікай кулі. Шасцерні размяшчаліся не ў дзвюх, як звычайна, а ў пяці плоскасцях адна над адной, што і дазволіла зрабіць гадзіннік мініяцюрным. Нягледзячы на тое, што на гэты раз Расію прадстаўлялі шэсць экспанатаў, а таксама прысутнічалі моцныя канкурэнты са Швейцарыі, Англіі, Францыі, магіляўчанін зноў заваяваў узнагароду.

Несумненным дасягненнем з'яўляецца і залаты медаль у класе «Дакладныя інструменты», прысуджаны праз 22 гады фізічным і механічным апаратам з Ашмян.

Высокую ацэнку на міжнароднай арэне атрымалі таксама чыгуначнікі з Беларусі. Вынайдзены начальнікам тэлеграфа Палескіх чыгунак К. Андэрсам семафорапаўтаральнік быў удастоены «Гран пры» — найвышэйшай узнагароды парыжскай выстаўкі 1900 года. Ганаровымі дыпломамі гэтай выстаўкі ўзнагароджаны таксама начальнік участка службы пуцей станцыі Баранавічы М. Зарэмба-Уладычанскі, які прадставіў чарцёж і мадэль аўтаматычнай чыгуначнай стрэлкі, і начальнік галоўных майстэрань Палескіх чыгунак С. Міхін.

Традыцыйна дэманстраваліся лясныя багацці Беларусі. Наведвальнікі многіх сусветных выставак знаёміліся з жыццём Белавежскай пушчы.

Павільён Расіі на парыжскай сусветнай выстаўцы 1900 года ўпрыгожвала чучала зубра, а экспанаты з пушчы склалі аснову ляснога аддзела. Нягледзячы на тое, што яны былі аб'яўлены па-за конкурсам, Вярхоўны савет экспертаў, уражаны «сапраўды ўзорнай якасцю выстаўленага лесу, паўнатой і сістэматычнасцю сабраных калекцый», прысудзіў ім дзве вышэйшыя ўзнагароды. Сярэбраным медалём «за выдатна зробленае чучала зубра» быў узнагароджаны прэпаратар Г. Прыходзька.

Удзел Беларусі ў сусветных выстаўках не абмяжоўваўся толькі пасылкай экспанатаў. Прафесар Горы-Горацкага земляробчага інстытута І. Сцебут на лонданскай сусветнай выстаўцы ў 1862 годзе быў назначаны членам міжнароднага журы па падкласу «рэчываў жывёльнага паходжання, якія маюць тэхнічнае прымяненне». Дадаткова яму даручалася вывучыць вучэбны і сельскагаспадарчы аддзелы выстаўкі, скласці справаздачу па аддзелу паляводства і жывёлагадоўлі, а таксама набыць розныя прадметы для папаўнення калекцыі і кабінетаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута. На выстаўцы ім былі закуплены найноўшыя сельскагаспадарчыя машыны і інструменты, навуковыя прыборы, у тым ліку спектраскоп Спенсера, ганіёметр Адэльмана, трайны мікраскоп Нашэ, фотаэлектрычны мікраскоп Дзю-Боска. Агульная іх вага склала амаль 360 пудоў.

Усяго на сусветных выстаўках XIX стагоддзя па розных аддзелах і класах прынялі ўдзел каля ста экспанентаў з Беларусі. Вядома, па выставачных экспанатах звычайна можа меркаваць толькі аб лепшых і найвышэйшых дасягненнях эканомікі і культуры. Сама логіка выставачнай справы, канкурэнцыя і конкурсны адбор дыктуюць такі падыход.

XX стагоддзе падхапіла эстафету сусветных выставак. Цяпер іх правядзенне рэгламентуецца канвенцыяй аб міжнародных выстаўках 1928 года. Беларусь — краіна-ўдзельніца гэтай канвенцыі. На жаль, на маючай адбыцца сусветнай выстаўцы ў Севільі нашага павільёна не будзе. Але вольная, незалежная Беларусь наўрад ці абыдзецца ў будучыні без удзелу ў ЭКСПА.

А. КІШТЫМАЎ,
навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Беларусі.

## «ДЗЯДЫ»





Беларусы перажываюць пакутлівае і ачышчальнае пачуццё вяртання да свайго існага, спрадвечнага, без чаго народ — не народ, нацыя — не нацыя. Зруйнаваўшы храмы і веру, забыўшыся на сваю гісторыю і сваіх продкаў, адмовіўшыся і ад значна бліжэйшай па часе мінуўшчыны, мы адчулі сябе (хай не ўсімі гэта пачуццё ўсвядомлена) духоўнымі жабракамі, людзьмі без мінулага і без будучыні, страцілі тое маральнае апірышча, на якім трымаецца сям'я, род, народ. Народныя святы, абрады і традыцыі складваліся вякамі. Кожнае мела адметны знешні малюнак, убірала ў сябе мудрасць народа, яго назіранні над прыродай і веды аб чалавечым быцці. З сівой даўніны прыйшлі да нас і «Дзяды», дзень, калі жывыя ўспаміналі ўсіх сваіх продкаў, шанавалі іх памяць і прасілі паспрыяць у іх справах, бо былі цвёрда перакананы, што ўсе, хто пакінуў гэты свет, звязаны з ім нейкімі нябачнымі ніцямі.

Сёлета «Дзяды» на Беларусі ўпершыню адзначаліся афіцыйна. Дзень памяці продкаў быў нерабочым днём. Па ўсёй рэспубліцы, на тысячах могілак, на брацкіх магілах, у храмах гарэлі свечкі ў памяць памёрлых і загінуўшых — у шматлікіх войнах на полі бітвы, у варожым палоне, хто быў закатаваны ў турмах і канцэнтрацыйных лагерах за калючым дротам, стаўшыся ахвярай антынароднага рэжыму.

Ва ўрочышчы Курапаты ў гэты дзень было вельмі многа народу. Суцэльны людскі паток рухаўся да гэтага жалобнага месца, якое за апошнія гады стала вядома ва ўсім свеце як сімвал дзяржаўнага беззаконня, як увасабленне нашага болю і смутку. І тут гарэлі свечкі і гучала малітва, якую прамаўлялі святары праваслаўнай і каталіцкай канфесій, бо ў Курапатах прынялі пакутніцкую смерць беларусы, палякі, рускія і яўрэі... Ды ці даведаемся мы калі-небудзь дакладна, хто тут ляжыць і колькі іх было!!

У гэты ж дзень вечарам Дом літаратара запрасіў да сябе ўсіх, хто жадаў «дзядоў-продкаў нашых памянуць, роду беларускаму старажытнаму пакланіцца». Незвычайную праграму паказала ў гэты дзень Беларускае тэлебачанне. Многа горкага і балючага давялося ўбачыць і пачуць з экрана. Суровым і часта нялітасцівым быў да беларусаў лёс. Колькі войнаў пракацілася праз нашу зямлю, і кожная не толькі руйнавала гарады і вёскі, а і забірала жыцці, найчасцей самыя лепшыя, самыя маладыя. І каб жа толькі войны!

Цішка Гартны, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Іван Замоцін... Спынюся, бо немагчыма ўсіх пералічыць. Гэта цвет нацыі, яе інтэлектуальны патэнцыял, які ў 30-я гады быў знішчаны, і аднавіць страчанае немагчыма, бо кожны з гэтых людзей быў асобай непаўторнай. Твары многіх з іх мы ўбачылі ўпершыню. Выдатным вучоным, пісьменнікам, змагарам за нацыянальнае Адраджэнне наша вечная памяць і вечная падзяка за іх непахіснасць і адданасць беларускай справе.

НА ЗДЫМКАХ: 2 лістапада 1992 года. Дарога на Курапаты.

Дзіяна ЧАРКАСАВА.
Фота Віктара СТАВЕРА.

# ЯК ВЫПІСАЦЬ ГАЗЕТУ «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

## ЗА ЦАНОЙ НЕ ПАСТАІМ, ХОЦЬ ЕСЦІ ХОЧАЦЦА

Паважаныя сябры!

Звяртаюся да вас па пытанню аб падпісцы на газету. Справа ў тым, што ў каталогу няма «Голасу Радзімы», летась была падпіска, а цяпер нешта заклініла ў гэтым іржавым механізме. Дзесьці штосьці трэснула—і на табе, сядзі, куры. А вестку з Радзімы вельмі хочацца мець. Можа б нешта падказалі ці параілі, як быць. Чакаю ад вас пісьма, а за цаной, як пяюць у «Беларускім вакзале», «мы не пастаім». Хаця б па той прычыне, што ўсе без выключэння расейскія газеты і журналы, якія мы выпісалі на 1992 год, здрадзілі сваім падпісчыкам на паўгода. І толькі «Голас Радзімы» ішоў без перапынку. Канешне, усім есці хочацца, але ж гонар і марка выдавецтва—гэта як сцяг. Вельмі сумна, калі рэў чэрава заглушае вечныя якасці чалавечай істоты.

Ну, бывайце здаровы, а то я нешта забалбатаўся, паляшук няшчасны. Пара бегчы за капустай у лаўку, бачу: ужо бабы і мужыкі нясуць.

**А. БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**

Набярэжныя Чалны.

## ПРАШУ НЕ ПЕРАПЫНЯЦЬ ВЫСЫЛКУ ГАЗЕТЫ

Паважанае спадарства!

На вялікі жаль, ні ў асноўным, ні ў дадатковым каталогу, як было напісана вамі ў № 39, «ГР» не знайшлося. Таму і аформіць падпіску мне не ўдалося. Прашу вас параіць, як мне гэта зрабіць.

Разам з гэтым прашу не перапыняць высылку мне вашай газеты. Ва ўсякім разе я выплачу кошт падпіскі і дастаўкі за цэлы 1993 год. Адначасова прашу, будзьце ласкавы, паведаміце, якую беларускамоўную газету яшчэ можна выпісаць (індэкс, кошт і г.д.). Справа ў тым, што ў асноўным каталагу амаль што не падаюцца газеты Беларусі, а ў дадатковым іх зусім няма.

З павагай

**А. КАЖАРСКІ.**

Львоў.

## ВЫПІСВАЦЬ ХАЧУ І ДАЛЕЙ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Вашу газету я выпісваю вось ужо напэўна чацвёрты год. Хацеў бы выпісваць яе і далей. Але як на яе падпісацца, паку́ль невядома, таму што на Чарнавіцкім галоўпаштамце падпіску не прымаюць. Няма ў іх дадатковага каталога.

Таму прашу вас паведаміце мне, куды выслаць і колькі грошай для падпіскі на «Голас Радзімы» на 1993 год. Я хацеў бы падпісацца на год.

Чакаю адказу.

З павагай

**Ф. СІТОК.**

Чарнаўцы.

## ЯК БЫЦЬ?

Шаноўная рэдакцыя!

Пішa вам чытач вашай газеты з 1990 года. Да гэтага часу падпісацца на вашу газету ў Пецярбургу ўдавалася. Але сёлета «Голасу Радзімы» ў дадатковым каталогу я не знайшоў. Прашу вас адказаць, якім чынам магчыма падпісацца на вашу газету.

З павагай

**Алег СЦЕПУЛЁНАК.**

Санкт-Пецярбург.

## ДАПАМАЖЫЦЕ МЕЦЬ ГАЗЕТУ Ў ХАЦЕ

Дарагая рэдакцыя!

Вялікі дзякуй вам за вашу газету. Яна вельмі цікавая, змястоўная і карысная, асабліва для нас, беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны. Гэта ж маленькая стужачка сувязі з вамі. Я шмат гадоў выпісвала вашу газету, цікава было знаць усе навіны.

Звяртаюся да вас з вялікай просьбай. Растлумачце мне, калі ласка, як зараз (на 1993 год) падпісацца на «ГР». У дадатковым каталогу, таксама як і ў асноўным, ніякіх звестак пра гэту газету няма, і таму ўзнікаюць цяжкасці з падпіскай. А мне так хочацца і далей быць з вамі, мець такія цікавыя звесткі аб Бацькаўшчыне.

Дапамажыце, сябры, мець мне гэту газету ў хаце. Што мне для гэтага зрабіць? Куды і колькі трэба пераслаць грошай? Растлумачце мне, як паступіць. Буду вельмі вам удзячная за дапамогу.

Жадаю ўсяму калектыву рэдакцыі здароўя, шчасця і творчага натхнення ў гонар нашай любімай Бацькаўшчыны.

Прабачце, калі ў маім лісце ёсць памылкі. Я шмат гадоў ужо не карыстаюся роднай мовай.

З вялікай падзякай і павагай да вас

**Зоя САРАКАЛЕТАВА,**

Львоў.

## ЧАС ГАНАРЫЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЮ

Дарагая рэдакцыя!

З'яўляюся вашым сталым чытачом. Вось ужо 25 гадоў, як штотыднёвік «Голас Радзімы» жаданым госцем прыходзіць у маю кватэру. А зараз з'явілася якаясь недарэчнасць. Пачалася падпіска на газеты і часопісы на 1993 год. «ГР», як амаль усіх беларускамоўных газет (акрамя «Звязды»), у каталогу не аказалася. Не ўяўляю сябе без «Голасу Радзімы», таму і звяртаюся да вас з пытаннем: як быць?

Кажуць, існуе дадатак да гэтага каталога, дзе ёсць і «ГР». Не ведаю, можа дзе і ёсць гэты дадатак, у якогась чыноўніка пад сукном ляжыць, а пакуль, куды мне ні прыходзілася звяртацца, адказ быў адзін: нічым дапамагчы не можам. Летась такая недарэчнасць была з «Народнай газетай», а вось зараз яна яшчэ больш ускладнілася.

Спадзяюся, што калектывы беларускамоўных выданняў, якія не значацца ў каталогу, павінны тэрмінова патурбавацца аб сваіх земляках, што жывуць за межамі Беларусі. Не ведаю, колькі беларусаў жыве на Украіне, а вось у Данбасе яны складаюць 1 працэнт ад усяго насельніцтва, а гэта звыш 800 тысяч чалавек. Праўда, раней іх было яшчэ больш—1,5 працэнта. Не думаю, што мае землякі павярталіся ў Беларусь. Не, яны проста навучыліся добра вымаўляць літару «г» і запісаліся рускімі. Але ж ёсць многа такіх, якія не забываюць сваю родную мову, культуру, звычаі. Зараз у Данецку ёсць грамады грэкаў, яўрэяў, немцаў, а вось беларусаў няма. Напэўна, яны запісалі сябе ў рускамоўныя. А шкада. Лічу, што прыйшоў час ганарыцца нацыянальнасцю. Ды здзіўляе вось што. У Беларусі і тут на Украіне прачытаў пра пашпарт і вачам не паверыў: зараз тут няма графы «нацыянальнасць». Як гэта лічыць? Украіна—без украінцаў, Беларусь—без беларусаў? Няма зараз імперыі, развалілася. Няма «старшего» брата і «младшего». Ёсць незалежная Украіна і незалежная Беларусь. Зараз настала чарга свабоды, мы павінны памятаць і добра ведаць, чыйго мы бацькі дзеці, якога мы роду.

І яшчэ пра грамадзянства. Думаю, што яно павінна быць двайное. Часта пры размовах з сябрамі, знаёмымі паўстае гэтае пытанне, і я адказваю толькі так. І няхай на тэрыторыі незалежных Беларусі ці Украіны кожны з нас зможа з чыстым сумленнем ганарыцца, што ён немец, грэк, грузін, кіргіз, беларус, украінец і г.д.

Вось і ўсё, што я хацеў вам напісаць. Зычу вам дабра і шчасця.

З павагай да вас

**Фёдар СЕВЯРЫН.**

Данецк.

## НЕ ПАРВІЦЕ НІТАЧКУ ПОВЯЗІ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ

Шаноўныя сябры!

Надышоў тэрмін падпіскі на газеты і часопісы. Але ў каталогу няма «Голасу Радзімы», няма яе і ў дадатковым каталогу.

Адмовіцца ад газеты няма сіл, бо «Голас Радзімы» застаўся той ніткачкай, якая звязвае мяне з Бацькаўшчынай. Чытаючы «Голас Радзімы», я пазнаёміўся з гісторыяй Беларусі, атрымаў яскравыя сведчанні, скуль мы, беларусы, родам, бо ў школе гісторыю Беларусі не вывучалі.

Шаноўныя спадары, калі ласка, напішыце, куды, каму і колькі грошай выслаць, каб падпісацца на газету «Голас Радзімы» на 1993 год. Загадзя шчыра дзякую і вельмі спадзяюся, што застануся чытачом каханай газеты. Выбачайце за памылкі, бо дужа даўно (больш 40 гадоў) не пісаў па-беларуску. Мне 63 гады. З іх больш 40 гадоў пасля заканчэння марахоцкага вучылішча адпрацаваў на моры радыстам, не чуючы беларускай мовы.

Усяго вам добрага.

**Арнольд УГОДНІКАЎ.**

Находка.

**АД РЭДАКЦЫІ.** Гэта падборка — далёка не поўны пералік лістоў, якія мы штодзень атрымліваем ад нашых чытачоў. Як і тэлефонныя званкі з усіх рэспублік былога СССР. Гэта сведчыць аб тым, што, нягледзячы на неабходнасць кожнаму з нас змагацца за выжыванне ў сённяшніх бязлітасных варунках крызісу, на суб'ектывізм у адносінах да беларускамоўных выданняў, газета не стала менш патрэбнай нашым падпісчыкам. Якраз наадварот, што нас вельмі цешыць і натхняе.

Мы ўжо паведамлялі аб тым складаным становішчы, у якое паставілі нас структуры, адказныя за праведзенне падпіскі. Яшчэ раз даводзім да ведама прыхільнікаў і сяброў газеты: заяўкі на падпіску на першае паўгоддзе 1993 года дасылайце непасрэдна ў рэдакцыю. Спадзяёмся, што на другую палову года вы зможаце падпісацца, грунтуючыся на цэнтральным каталогу, куды мы павінны трапіць-такі недзе ўвесну. Сачыце за нашымі аб'явамі.

*СПАДЧЫНА*

# З ГІСТОРЫІ ЛУНІНЕЦКАЙ ЦАРКВЫ



Старажытны 450-гадовы палескі гарадок Лунінец, што на Брэстчыне (да канца 80-х гадоў мінулага стагоддзя сяло Лунінец), нягледзячы на свой сталы век, абдзелены архітэктурнымі помнікамі. Вятры шматлікіх войнаў знішчылі большасць старых будынкаў, сёння тут толькі некалькі пабудоў 30-х гадоў. Адзіным ацалелым архітэктурным помнікам у горадзе лічыцца Крыжаўзвіжанская царква. У красавіку гэтага года споўнілася 80 гадоў з дня закладкі яе фундамента. Але гісторыя царквы пачалася не ў 1912 годзе, а значна раней.

Для будаўніцтва свайго першага храма жыхары старажытнай вёскі Лунінец, размешчанай на ўзвышку сярод балот, выбралі самае высокае месца ў цэнтры паселішча — так званы грудок. Менавіта тут, у раёне старых вуліц з былымі прыгожымі назвамі Царкоўная, Старасельская, Завальная і цяперашняя Прыпяцкая, і быў цэнтр старажытнага Лунінца, адсюль пайшоў сучасны горад. Магчыма, заснавальнікамі царквы былі манахі, таму што Лунінец быў уласнасцю Дзяцелавіцкага манастыра. Але калі гэта было? У «Описании церквей и приходов Минской епархии за 1879 год» указана, што «о времени построения первой или древнейшей церкви нет сведений». Тая царква, што знаходзілася ў Лунінцы ў XIX — пачатку XX стагоддзяў, была пабудавана ў 1811 годзе на сродкі вернікаў. Драўляная пабудова мела выгляд крыжа з трыма купаламі. У царкве быў трохярусны дашчаты іканастас з 24 іконамі не вельмі добрага жывапісу. Усё царкоўнае начынне было таксама надзвычай беднае і малакаштоўнае. Мелася два Евангеллі, іншыя царкоўныя кнігі былі старажытнага друку і вельмі старыя. На асобна пабудаванай званіцы было 4 званы. Прыход царквы — вёскі Лунінец і Мелясніца, былыя валоданні Дзяцелавіцкага манастыра. Прыхаджан на той час было 523 мужчыны і 496 жанчын. Настаяцель царквы — святар Андрэй Бярнадскі, які закончыў Мінскую духоўную семінарыю, служыў у Лунінцы з 1868 года. Храм меў сваю зямлю: 3,5 дзесяціны прысядзібнай, ворыўнай і сенажаці 71 дзесяціну і 5,5 няўдобіц. Дом для святара быў пабудаваны ў 1871 годзе. У прыходзе мелася штатнае народнае вучылішча. Сярод насельніцтва Лунінца толькі 5 працэнтаў жыхароў былі пісьменнымі. Царкоўнапрыходскае папячыцельства было створана ў 1877 годзе. Яго старшынёй быў абраны святар А. Бярнадскі, а членамі — настаўнік народнага вучылішча Іван Панкоўскі і некалькі сялян. Лунінецкая царква была небагатай,

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**Эмілія КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ**

# *«ПА ЦЯРНІСТАЙ ПУЦІНЕ»*

**8.06.81 г.**

З болем у сэрцы чытала пра У. Жылку, вершы якога «Хвораму», «На шпітальнай пасцелі» заўсёды наводзілі сум. Шкада маладога лірыка, якога на паўдарозе, у самы росквіт творчасці, скасіла смерць.

Вы пішаце пра Мікалаеву. Бацькі Надзеі Мікалаевай жылі ў Дзвінску. Я ведала яе як выдатную артыстку гімназіі. А вучылася Н. Мікалаева ў беларускай гімназіі таму, што бяднейшых вучняў звальнялі ад платы за права навучання, а Надзя была таксама не з багатых. Бацька яе быў папом у малельні.

«Паўлінку» ставілі ў многіх мяйсцовасцях Латвіі. Упершыню ў Люцыне ролю Паўлінкі выканала Кацярына Мікалаюнас, а ролю Агаты — Зюня Васілеўская (Юзэфа Іванаўна Оруп).

Праграма беларускага тэлебачання ў нас прымаецца добра. Перадача пра латышска-беларускія сувязі, што Вы рыхтуеце зараз, усіх беларусаў, якія засталіся ў жывых, вельмі цікавіць таму, што многія былі не толькі сведкамі гістарычных падзеяў, але і іх удзельнікамі.

**10.08.81 г.**

...Адным з самых выдатных дзеячаў беларускага літаратурнага і культурнага жыцця ў Латвіі быў Езавітаў Канстанцін Барысавіч. Ён пісаў вершы, апавяданні, перакладаў... Ён быў энергічны, актыўны. Усе яго паважалі. На жаль, нічога ў мяне не засталося з яго твораў. Яго бібліятэка, мусіць, загінула, бо Езавітаў у часе адступлення немцаў Рыгу пакінуў.

Жонка яго Нікіфароўская Галіна Уладзіміраўна з партызанаў вярнулася ў Рыгу разам з Чырвонай Арміяй. Нейкі час працавала ў Рызе, потым выйшла замуж і выехала.

**11.11.81 г.**

Адначасна з гэтым лістом высылаю яшчэ два з фотаздымкамі: пяць атрымала ў Зіны Мадзалеўскай, рэшта — ад брата.

Там ёсць фота з пастаноўкі п'есы Я. Райніса «Бацька сэрца». Пераклад не даслоўны. Сюжэт узяты з рамана ў вершах. Твор пра эмігранта-рэвалюцыянера, які перажыў усе нягоды жыцця, а калі вяртаўся у СССР, быў забіты пры пераходзе граніцы.

Райніса з беларусамі збліжала многае. У 1926 годзе яму ўдалося наведаць Менск, дзе агледзеў музеі, навучальныя ўстановы, нават студэнцкі інтэрнат. Пазнаёміўся з многімі беларускімі літаратарамі таго часу. Вярнуўшыся ў Латвію, Райніс пісаў у «Вучыцельскай газеце» («Сколотаю авізэ») пра вялікія дасягненні беларусаў у БССР у культурным будаўніцтве. Выступаў таксама і з вуснымі рэфератамі пра беларускае жыццё ў БССР.

Райніс спадзяваўся на прыход вясны чалавецтва — і менавіта з СССР.

У часы Райніса Беларускі народны тэатр у Латвіі мацнеў і развіваўся. Але ў нас яшчэ не было сваіх рэжысёрскіх сіл, і таму рэжысёрамі запрашалі артыстаў латышскага нацыянальнага тэатру, як напрыклад, Гр. Дэбура...

Калі высланыя фотаздымкі Вам не патрэбныя, прашу спаліць разам з маім «Жыццяпісам», які даваў веду пра многіх беларусаў, лёс якіх быў падобны да майго...

**20.12.82 г.**

П. Т. Міpановіч намаляваў абраз (рэпрадукцыя) «Узнясенне Божай Маці» (ёсць такое свята). Гэты абраз знаходзіцца ў Прыдруйскім касцёле ў галоўным алтары. Маляваў ён і для цэркваў. Свайго дзядзьку намаляваў у яго ж хаце — партрэт (фрэска) на ўсю сцяну. Маляваў ён хлапчукоў і дзяўчынак, пастушкоў, прыроду...

**10.02.84 г.**

Што тычыцца дзіцячага фальклору, то яго трэба шукаць... А займацца вандраваннем ужо не магу. Ужо больш чатырох месяцаў адчуваю сябе не зусім добра. Акрамя таго, каб зрабіць пераклад, трэба дасканала ведаць беларускую мову. Я чытала пераклады з польскай і рускай моваў на латышскую і з рускай мовы на беларускую, а таксама з латышскай на рускую. Змест, безумоўна, супадае, але я не адчула той цеплыні, пяшчотнасці, узлёту думак, натхнёнасці, перажыванняў, захаплення, подыху часу, паразумення з аўтарам, яго істоту і ўсё тое, што глыбока пранікае ў сэрца чытача пры спазнанні арыгінала.

Для прыкладу перасылаю нізку дзіцячых фальклорных пярлінак, якія выпадкова знайшла ў сваіх паперах.

X X X

**Бацька кажа свайму сыну:**

**— Як я быў малы, я ніколі не лгаў.**

**Сын пытае:**

**— А калі ты пачаў ілгаць?**

X X X

**Хрэсная дала Яніту яблык і сказала, каб ён падзяліўся з сястрою па-брацку. Янітыс не ведае, як гэта зрабіць, і пытае маці. Тая адказвае, што падзяліцца па-брацку азначае аддаць большую частку яблыка сястры. Янітыс падумаў, аддаў яблык сястры і кажа:**

**— Вось, Яня, яблык. Падзялі яго па-брацку.**

X X X

**Святар пытаецца ў маленькай Катрыны:**

**— Скажы, дзетка, ці патрэбна перад абедам маліцца?**

**— Не, гэта рабіць нявартa. Мая мамачка і так гатуе вельмі смачную ежу.**



X X X

**Бабулька заўважыла, як за вуглом суседскі Янцытыс пацягвае горкую цыгарэту.**

**— Ах ты, свавольнік! Пайду і раскажу тваёй настаўніцы, што ты тут дыміш.**

**— Не, нічога ў цябе, бабця, з гэтым не выйдзе. Я яшчэ і ў школу не хаджу.**

X X X

**— Каторы з вас змажа сказаць, хто больш патрэбны — Месяц ці Сонца?**

**— Калі ласка, настаўнік: Месяц. Ён свеціць уначы. А сонца свеціць удзень, калі і так відна.**

# У РОДНЫМ КРАЮ ЯК У РАЮ

## (ПРЫКАЗКІ, ПРЫМАЎКІ, ПРЫГАДАНЫЯ Э. Д. КАЗАК-КАЗАКЕВІЧ)

Не крыві душой: крывабокі на той свет пойдзеш.

Прымацкі хлеб сабацкі.

Багатаму і чорт у кашу масла падкладзе, а беднаму і ў поліўку вады падліе.

Мужык як авечка: яе абстрыгуць, а яна зноў абрастае.

Свая печка цяплей за чужое сонца.

Не спіцца, бо хлеб сніцца.

Хоць чорная папа (хлеб), але поўная лапа.

Хто хлеб носіць, той есць не просіць.

Ніхто не ведае, як хто абедае.

У родным краю як у раю.

Лепш хлеб з вадой, чым пірог з бядой.

Ці сто коп, ці адзін сноп—на год хлеба.

Не руш чужога, не бойся нікога.

Грэх у мех, і сам наверх.

Кінь прад сабой—знойдзеш за сабой.

У паноў прасіць, што па смерць хадзіць.

Панскія медалі хлеба не далі.

Пан шукае сабе прыбылі, а другому—гібелі.

Хто пытае, той не блудзіць.

Вочы страшаць, а рукі зробяць.

Хоць ох, але ўдвох.

Аднаму і каша не спорна.

Начная кукушка (жонка) заўсёды перакукуе.

Лепш утапіцца, чым з нялюбай ажаніцца.

Рука руку мые: абедзве белыя.

Каб не ежка, не адзежка, дык была б грошай дзежка.

У кожнай хаце свая печ.

Гразь бядзе не помач.

Заканчэнне. Пачатак у №№ 40—45.

Ранняя птушка зубкі цярэбіць, а позняя вочкі трэ.

Не гані Бога ў лес, калі ён у хату ўлез.

Пацеры не звяры—у лес не ўцякуць.

Воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць.

І сава сваіх дзяцей хваліць.

Хоць жонка сучка, затое грошай кучка.

І жонка—туча, і грошы—куча.

З сябрамі дружы, а за пазухай камень дзяржы.

Не той свет, што ў вакне блішчыць.

На ласы кусочак знойдзецца куточак.

На языку мядок, а на сэрцы лядок.

Не хваліся сеўшы, а хваліся з'еўшы.

Сей авёс у гразь—будзеш князь.

Пустая каша сям'і не разганяе.

Чые б бычкі ні скакалі, а цялушачкі—нашы!

Вачамі—леціць, а сэрцам—шыпіць.

Скоры паспех людзям на смех.

У кулаку ўсе пальцы роўныя.

Грошаў ні граша, а слава хараша.

Шуба авечая, а душа чалавечая.

Ляцела, як анёл, а села, як чорт.

Слёзы пажар не патушаць.

Язык вастрэйшы за іголку.

Чаго хочаш, таму й верыш.

Яму гаварыць—што аб сценку гарох малаціць.

Ад злосці агонь з вачэй і дым з вушэй.

Па ім і ў ступе таўкачом не пападзеш.

Не вер жонцы ў полі, а каню ў дарозе.

Пакуль сын лапці схваціў, бацька і змалаціў.

Як ні вярці, ні круці—а трэба памярці.

Пайшла раха (неахайніца) жыта жаць, забылася серп узяць. Серп ляжыць на паліцы, а раха ходзіць без спадніцы. Абідна да болі, калі жыта гніе на полі.

Хто табе—сам сабе.

За добрую плату служаць і кáту.

У скупога заўсёды—па абедзе.

Гразь не сала: памыў—і адстала.

Бедны памрэць—ніхто не памянець, а багатага ўся ваколіца помніць.

За добрае—злым заплата.

Праўда як масла: наверх усплывае.

З чужога каня і сярод гразі злазь.

Вялікі пень, ды дурань; малы залатнік, ды дарагі.

Хто краў, хто праў, а невінаватага вешаць вядуць.

Якія сані, такія і самі.

Лепш у хаце цапом бухаць, чым салдацкіх куль слухаць.

Не крычала варона, калі ўверх ляцела, а калі ўніз падала.

Не кайся, рана ўстаўшы, а маладым ажаніўшыся.

Адзін сын—не сын, і два—не кармільцы.

За тое мужык з жонкай сварыцца, што пусты гаршок варыцца.

Багатага адпявае архірэй, а беднага—салавей.

Гасцей запрасіў на нядзелю, а сам выехаў у суботу.

Што кажух, то не вата, што капуста—не гарбата.

У чужы кажух не апранайся, на чужога мужа не спадзявайся.

Хваліўся, як пятух на плоце.

Як трывога—тады да бога; як бяда—тады да жыда.

Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе.

Публікацыя С. ПАНІЗЬНІКА.

### ДА 110-й ГАДАВІНЫ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ХАЙ ЖА СВЯЦІЦЦА ІМЯ ЯГО

Сёлетні год на Беларусі праходзіць пад знакам Купалы і Коласа. Нарадзіўшыся ў адзін год, яны амаль заўсёды былі поплеч у жыцці і творчасці. Неаддзельныя яны адзін ад другога і ў нашай свядомасці як найвялікшыя сучасныя беларускія пісьменнікі, чыя творчасць — невычэрпная крыніца мудрасці і прадбачання, з якой наталяем духоўную смагу мы і будуць рабіць для сябе адкрыцці пакаленні, што прыйдуць пасля нас.

Такі ўжо наш сённяшні час, што мы ўсё пераацэньваем і пераасэнсоўваем, здавалася б, да звыклага падыходзім з новымі меркамі. Нямала горкага і трагічнага было і ў жыцці (думалася: бязвоблачным) нашых класікаў. «Трагедыя Коласа, як і трагедыя Купалы, як і трагедыя ўсіх іншых вялікіх нашых мастакоў слова, — заначае Ніл Гілевіч, — у тым, што іх не толькі збівалі з тропу, не давалі сказаць сваё слова на ўсю моц і глыбіню, але і сказанае імі, сказанае своечасова, у пару і свабодна, перакручвалі, тлумачылі, падавалі так, што і ні вялікага мастака не бачна, і ні вялікага мысліцеля не чутна, і наогул не зразумела, чаму ў падручніках пішуць вялікі, чаму народны...»

Але ж вялікае лепш бачыцца на адлегласці. І не толькі таму, што, аддаліўшыся, яно лепш асэнсоўваецца, а галоўным чынам таму, што вялікае мае ўласцівасць увесь час расці. Гэта бачым мы па Максіму Багдановічу, Янку Купалу, Якубу Коласу, прыкладна такім быў пачатак выступлення Янкі Брыля на ўрачыстым вечары, прысвечаным 110-й гадавіне з дня нараджэння Якуба Коласа. Мне пашанцавала, сказаў Янка Брыль, быць сучаснікам Коласа, бачыць яго, чуць, адчуваць цяпло яго душы. І сёння ён узвышаецца над намі не толькі таму, што быў высокаталенавіты і геніяльны, а таму што ўвасобіў у сабе ўсё беларускае ў самым шчырым, самым добрым, вартасным значэнні. Бываючы на радзіме Якуба Коласа ў Мікалаеўшчыне, Смольні, Альбуці, пры някідкасці прыроды адчуваў я беларускае коласаўскае яе хараство, бо зямля гэта ўроблена сапраўдным мастацкім словам. І хараство гэта ніколі не прыядаецца, як не прыядаецца хлеб, вада, паветра. «Хочацца падкрэсліць, што з намі назаўсёды застанецца беларуская душа Коласа. Хай жа свяціцца імя яго», — усхвалявана і пранікнёна закончыў сваё слова пра песняра Янка Брыль.





Якуб Колас меў чулую душу і ўражлівае сэрца. Яго хвалявала і гаротная доля беларуса, і яшчэ нікім да яго не апетае хараство нашай прыроды. Спалучэнне гэта нарадзіла самую вялікую, самую значную, самую нацыянальную ў беларускай літаратуры кнігу — паэму «Новая зямля». У ёй усё, ад першага да апошняга радка, беларускае. «Там усё—і духам, і зместам — Беларусь! Сама сапраўдная жывая Беларусь. Самабытная і не стылізаваная». Па «Новай зямлі» можна беспамылкова распазнаць, чым вызначаюцца беларусы ў вялікім свеце нацыянальна - этнічных супольнасцяў.

Пачуццё замілаванасці, якое зведаў пясняр да беларускіх палёў, лясоў, рэк, сугучнае пачуццям, што зведваюць беларусы - эмігранты, раскіданыя па белым свеце. «Мой родны кут, як ты мне мілы. Забыць цябе не маю сілы» — гэтыя радкі ўсхвалявалі беларускага кампазітара Міколу Равенскага. Жывучы пасля вайны ў Бельгіі, ён напісаў на словы Якуба Коласа прыгожую мелодыю. На жаль, твор амаль што невядомы на радзіме кампазітара ў Беларусі, і толькі аднойчы прагучаў у тэлевізійнай перадачы.

На вечар, прысвечаны юбілею песняра, быў запрошаны суайчыннік з Англіі, ужо добра вядомы на Бацькаўшчыне сваімі дабрачыннымі акцыямі айцец Аляксандр Надсон. Ён сказаў, што значна лепш адчуў і зразумеў паэзію Якуба Коласа пасля таго, як наведаў яго родныя мясціны, убачыў гэты прыгожы куток нашай Бацькаўшчыны. У кожным вершы Якуба Коласа, напісаным ім удалечыні ад Радзімы, сум па родных мясцінах і мара аб хуткай сустрэчы, сказаў айцец Надсон. «Мне большую частку жыцця давялося пражыць удалечыні ад Бацькаўшчыны. І калі было асабліва цяжка, браў кнігу Якуба Коласа, найчасцей «Новую зямлю», і перада мной паўставала радзіма ва ўсёй сваёй прыгажосці. І можа тое, што я застаўся беларусам, адбылося ў значнай меры дзякуючы Якубу Коласу, які ўмеў апісаць, ведаў і любіў наш таленавіты і працавіты народ. За гэта я яму бязмежна ўдзячны».

У гэтыя ж юбілейныя дні зноў адбылося традыцыйнае літаратурнае свята «Каласавіны» ў прыгожых наднёманскіх вёсках на Стаўбцоўшчыне, на радзіме вялікага песняра. Яго сцежкамі зноў прайшлі шматлікія госці, што прыехалі з Мінска і іншых месцаў рэспублікі. Гучалі словы ладзякі песняру за яго любоў да радзімы, якую ён з такім майстэрствам і дасканаласцю ўвасобіў у сваіх творах, дапамог і нам адчуць велічнасць, самабытнасць і непаўторнасць беларусаў на гэтай зямлі.

**НА ЗДЫМКАХ: пачатак свята ў Коласавых мясцінах 31 лістапада 1992 года; дом у Альбуці, дзе жыў Якуб Колас у 1890—1902 гадах; у зале літаратурна - этнаграфічнага музея Я. Коласа ў вёсцы Люсіна Ганцавіцкага раёна.**





ГАРТАЮЧЫ СТАРОНКІ «НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ» НІЛА ГІЛЕВІЧА

# ДРАКОН У КОЖНЫМ З НАС

У апошні час здаецца, што пісьменнікі, надрукаваўшы падчас перабудовы і галоснасці тое, што захоўвалася ў самых дальніх шуфлядах сталоў, змоўклі, разгубіўшыся перад сённяшнім імклівым і незразумелым часам. І можа таму з незвычайнай цікавасцю сустракаем мы кожную новую кнігу.

Нядаўна я набыла паэтычны зборнік Ніла Гілевіча «Незалежнасьць», у які ўвайшлі вершы, напісаныя пераважна за апошнія два гады, і адразу ўспомнілася, як здзівілася, даведаўшыся, што паэт Ніл Гілевіч стаў народным дэпутатам, а потым яшчэ і старшынёй парламенцкай камісіі. Навошта пісьменніку лішні клопат, бо грамадская дзейнасць (калі аддаваць ёй усе сілы) з'ядае каштоўны час, у тым ліку і прызначаны для творчасці. Але, напэўна, калі паэт бачыць, што надышоў час дзеянняў практычных, а не паэтычных, то, мусіць, паэзія на нейкі час павінна саступіць месца самай зямной прозе. Але кім бы паэт ні быў і якую б высокую пасаду ні займаў, у першую чаргу ён усё роўна паэт, а потым ужо дэпутат ці старшыня камісіі.

«Падыходы да паэтычнага асэнсавання «навейшай гісторыі» нашай краіны» — напэўна, так можна вызначыць асноўную ідэю гэтага зборніка. Паэт не глядзіць на свой народ, як на прыгнечаных чужой воляй, бездапаможных людзей. Таму ў вершах і гучыць не аплакванне яго цяжкай долі, а патрабаванне дзеяння...

**Схамяніся ж, ачніся, агледзься!**
**Ды разваж, ды раздумай, як сьлед:**
**Што пакінеш ты з поля ў налецьце!**
**З чым нашчадкі пакажуцца ў сьвет!**

...і абурэнне тым, што стала з намі, а дакладней, што мы самі з сабою стварылі...

**Хлусілі з пэўнасьцю такой —**
**Што ў рот глядзелі многія.**
**Цяпер — з працягнутай рукой**
**Стаім, як старцы ўбогія.**

...і перасцярога...

**Ні на кроплю ім не верце вы —**
**Гэтым пафасным ілжэпраракам:**
**Умярцьвяць яны наш дух жывы —**
**І давер наш вылезе нам бокам!**

...і горыч, бясконцая горыч і боль...

**Жывем — жуем — куды ўжо горш!**
**Любому рады донару,**
**Як бы няма ў нас ні на грош**
**Ні годнасьці, ні гонару.**

...і надзея, і вера, без якой, напэўна, няма сэнсу ні займацца палітыкай, ні брацца за пяро...

**Знайце: жывучы народ наш і з пекла**
**Выйдзе і ўзвысіць свой полымны дух!**

І яшчэ адно заўважыла я, гартаючы старонкі гэтага зборніка: яго трэба чытаць, уважліва гледзячы на даты напісання вершаў, бо гэтыя два радкі —год і месяц — часта надаюць вершам новы сэнс, і за быццам бы абстрактнымі вобразамі раптам паўстаюць канкрэтныя і памятныя падзеі апошніх гадоў. Прыклад таго — верш з назвай «Пра нашу годнасьць». Дык як наша годнасць выглядала ў лістападзе, а дакладней, у прадапошні дзень кастрычніка 1989? Калі за душою няма нічога, што дазваляла б сапраўднымі словамі ці высакароднымі ўчынкамі даказаць сваю праўату, застаецца апошні аргумент — гвалт.

**І што ж тады робім**
**У злосьці і скрусе**
**Мы — існыя родам**
**Сыны Беларусі!**

**Што — робім?**
**А б'ём-дабіваем заўзята**
**Свайго**
**Недабітага злыднямі**
**Брата.**

Калі чытала гэты верш, то ўспомніла нядаўнюю прэс-канферэнцыю Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, наладжаную ў дзень, калі на кансультацыйным савеце паступіла прапанова ад штатных супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета зняць з парадку дня сесіі адзіны, апошні з трох законаў, прапанаваных камісіяй. Можа, калі-небудзь у новым зборніку з'явіцца верш, пад якім будзе стаяць дата 10 верасня...

І яшчэ адна агульная для многіх вершаў зборніка рыса, якая падалася мне знамянальнай: аўтар зноў і зноў вядзе палеміку з нябачным і неназваным апанентам. У яго няма канкрэтнага імя, але ж ёсць рысы, па якіх можна паспрабаваць яго пазнаць. І вось: «Чаго ж ім хочацца? Ды ясна: Душу зямлі абрабаваць». «Вы — за свабоду? Чыю і якую? Тую, што здымуць нам з меркі чужой?» «Прадаўшы ўсё, што ёсць Айчына. Мяне сто раз ты прадасі». Дык хто ж ён, у рэшце рэшт, адмоўны герой паэта? Рызыкну выказаць сваю асабістую думку. Гэты неназваны вораг лёгка пазнаецца. Больш таго, мы змагаемся з ім і будзем яшчэ доўга і ўпарта ваяваць, бо ён — той самы, Дракон з вядомай казкі Шварца. Так, можна забіць страшэнную чыноўна-наменклатурна-камуністычную пачвару, але ў Дракона на месцы адной адсечанай галавы імгненна вырастаюць новыя. Гэта тыя, хто доўгія гады крычаў Дракону «ўра»!, дапамагаў яму, прыслужваў ці проста прызвычаіўся да жыцця побач з ім і не ўяўляе сабе зараз іншага. Дваццаць год таму яны аддавалі піянерскі салют, дзесяць год — скандзіравалі: «Слава КПСС», а сёння на плошчы Незалежнасці крычаць: «Жыве Беларусь!». «Жыве, жыве», — ціхенька ўсміхаючыся, адказвае з цёмных глыбінь падсвядомасці Дракон, але яго ніхто не чуе: на мітынгах заўсёды вельмі шумна... Дракон — у кожным з нас, і калі паэт на Краснай горцы (верш «Зданьне на бацькаўшчыне»), выслухаўшы пагрозы нябачнай здані, азіраецца навокал з пытаннем «Хто гэта?», побач няма ні душы. Акрамя самога паэта...

Асобна ў зборніку стаяць чатыры вершы з даўніх сшыткаў. Але ці выпадкова яны ўключаны менавіта ў гэты зборнік, дзе толькі даты адрозніваюць іх і па настроі, і па праблемах ад вершаў апошніх гадоў? У чым справа? Ды і бадзёрая, поўная аптымізму назва кнігі ніяк не спалучаецца з вершамі, уключанымі ў яе... А ў канцы зразумела: усё так, гэта яна і ёсць — наша незалежнасць, і што зробіш, калі яна ў нас — такая... І справа не ў назве, а ў тым, што абвясціць свабоду і незалежнасць — гэта яшчэ не значыць зрабіць народ вольным і ўпэўненым у сваіх сілах. Для гэтага трэба словы падмацоўваць нечым матэрыяльным, зацвярджаць канкрэтнымі справамі і ўчынкамі. А нам незалежнасць пакуль што прынесла толькі надзею, якая, дарэчы, заўсёды ў той ці іншай ступені — крэдыт, крэдыт спакою, цярплівасці, даверу, які мы даём таму, ад каго чакаем палёгкі і вызвалення. У гэтым выпадку — нашаму ўраду, і апошнім часам усё часцей і часцей хочацца нагадаць яму пра галоўную адметную рысу любога крэдыту — у рэшце рэшт, яго заўсёды трэба вяртаць...

А самае галоўнае, што, нягледзячы ні на што, паэт пакідае нам і, зразумела, сабе веру ў заўтра і дае параду, як гэтага заўтра дачакацца:

**У век рэнегацтва**
**І гібельнай здрады, калі**
**Зрываюцца душы,**
**Не справіўшыся з ачмурэньнем,**
**Шчасьлівая доля —**
**Трымацца бацькоўскай зямлі,**
**Як дрэва карэньнем!**

У нас ёсць толькі адно выйсце — берагчы сваю памяць, таму што ў цяжкую хвіліну нас здольна выратаваць толькі яна...

Вось, прынамсі, і ўсё. На заканчэнне хочацца падзякаваць Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны за цікавую кнігу і ўспомніць словы паэта, які са скрухай гаворыць:

**«і даб'е цябе наіўнасць,**
**І даб'е цябе насьмерць».**

Наіўнасць — гэта зараз такая каштоўная якасць, і так рэдка яна сустракаецца! А ненаіўны паэт — ужо і не паэт, бо гэта, можа, адзіная і апошняя якасць, якая дае сілы марыць, верыць і спадзявацца.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# ЦІ ПАЎСТАНЕ МУЗЕЙ КАЛІНОЎСКАГА?

Беларускі мастак Дзмітрый Маслаў праз газету «Голас Радзімы» звяртаецца ў Камісію Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны з лістом, у якім узнімае праблему стварэння ў Мінску музея Кастуся Каліноўскага:

«Яшчэ каля трыццаці гадоў таму назад, — гаворыць ён,— я звяртаўся з лістом у Мінгарвыканкам з прапановай стварыць у Мінску музей Кастуся Каліноўскага, але тады мае думкі не знайшлі падтрымкі ў партыйных органах. Таму і давялося перадаць па актах сабраныя матэрыялы ў Свіслацкі раённы краязнаўчы музей — на радзіму рэвалюцыянера.

Я вельмі ўдзячны за падтрымку вучоным Мікалаю Улашчыку, Адаму Мальдзісу, Івану Лушчыцкаму, Генадзю Кісялёву, Анатолю Клышку, вядомым беларускім пісьменнікам Уладзіміру Караткевічу, Івану Шамякіну, Максіму Танку, Аркадзю Куляшову, Міхасю Машару і дзесяткам людзей розных прафесій, якія натхнялі мяне на новыя пошукі. Цяпер я звяртаюся з такой жа прапановай у Вярхоўны Савет і прашу падтрымаць мяне.

Першая юбілейная рэспубліканская мастацкая выстаўка, прысвечаная К. Каліноўскаму, 150-годдзю з дня яго нараджэння, наладжаная Міністэрствам культуры і Саюзам мастакоў; навуковая канферэнцыя, прысвечаная Каліноўскаму і народнаму паўстанню 1861—1864 гадоў, наладжаная ў Гродне і Свіслачы Гродзенскім універсітэтам і Акадэміяй навук БССР; вечар памяці Каліноўскага (да 150-годдзя з дня яго нараджэння) у Доме літаратара, наладжаны Саюзам пісьменнікаў; выступленнні па беларускім тэлебачанні і радыё — гавораць аб вялікай цікавасці да асобы Кастуся Каліноўскага і яго паплечнікаў па барацьбе.

Калі падтрымаюць мяне і прымуць пастанову аб стварэнні музея Кастуся Каліноўскага ў Мінску на вуліцы яго імя ці на другой вуліцы, і Першамайскі райвыканком ці гарвыканком выдзеліць асобнае памяшканне (для пачатку аднапакаёвую ці двухпакаёвую кватэру), я зноў уключуся ў нялёгкую збіральніцкую працу і прысвячу астатнія гады жыцця асобе К. Каліноўскага.

Патрэбна памяшканне, дзе б можна было сустракацца з цікавымі людзьмі і захоўваць экспанаты, весці перапіску. Гэта дасць магчымасць стварыць цікавую экспазіцыю пра кароткае, але яркае жыццё палымянага рэвалюцыянера К. Каліноўскага і яго паплечнікаў па барацьбе на Беларусі і ў Літве.

Калі будзе пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і памяшканне для музея, я ўпэўнены, што многія мастакі адгукнуцца і ўключаць у пастаянную экспазіцыю свае творы. Вось якія думкі не пакідаюць мяне на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пасля таго, як зацікавіўся лёсам палымянага беларускага рэвалюцыянера», — піша ў сваім пісьме Д. Маслаў.

Здаецца, што сапраўды надышоў час увасобіць у жыццё высакародную ідэю. Аднак, як усё часцей і часцей атрымліваецца, добрыя пачынанні спыняюцца ўжо не з-за чыёйсці злой волі, а з-за адсутнасці грошай. Але Кастусь Каліноўскі настолькі значная постаць у нашай гісторыі, што прамаруджванне ў стварэнні музея яго памяці здаецца проста непрыстойным.

Дзмітрый Маслаў сабраў пад лістом подпісы амаль ста дзеячаў беларускай гісторыі і культуры, пісьменнікаў і мастакоў, сярод якіх дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі член - карэспандэнт АН РБ М. Касцюк, дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук В. Каваленка, старшыня Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак, старшыня Саюза кампазітараў І. Лучанок, старшыня Саюза журналістаў Л. Екель, старшыня Саюза мастакоў Г. Буралкін, рэктар Акадэміі мастацтваў Беларусі народны мастак, прафесар В. Шаранговіч, беларускія пісьменнікі М. Аўрамчык, Р. Барадулін, С. Грахоўскі, дырэктар выдавецтва «Беларусь» В. Дубоўскі, дырэктар выдавецтва «Юнацтва» В. Лукша і многія іншыя.

Ці будуць усе гэтыя захады мець нейкі рэзананс? І ці паўстане ў Мінску музей Кастуся Каліноўскага?

## Міхась ТКАЧОЎ



**31-га кастрычніка 1992 года, на 51-м годзе жыцця, у самым росквіце творчых сіл, памёр Міхась Ткачоў. Сям'я страціла клапатлівага мужа і бацьку, Айчына — таленавітага гісторыка і публіцыста, будзіцеля і асветніка, чалавека, які разам з паплечнікамі пачынаў новае Беларускае Адраджэнне.**

**Нарадзіўшыся ў старажытным Мсціславе, Міхась Ткачоў яшчэ ў маленстве ля мுроў спракаветных бажніц пазнаёміўся з беларускай мінуўшчынай. Захапленне гісторыяй узмацнела ў студэнцкія гады. Гэта і прадвызначыла далейшы выбар — аспірантура і праца над вывучэннем сярэднявеччыны Беларусі, плённая выкладчыцкая работа. І як вынік — больш за 400 артыкулаў, шматлікія кніжкі, навуковая ступень доктара навук, званне прафесара, усеагульнае прызнанне. З 1978 года М. Ткачоў — выкладчык Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, дзе ў 1983—1985 гадах загадваў кафедрай. У 1989 годзе па конкурсу абраны загадчыкам рэдакцыі гісторыі Беларусі ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. У 1992 годзе ён прызначаны галоўным яе рэдактарам.**

**Плённую навуковую і педагагічную працу М. Ткачоў спалучаў з актыўнай грамадскай і палітычнай дзейнасцю. Ён быў заснавальнікам і кіраўніком гісторыка - культурнага клуба «Паходня» ў Гродне. У 1988 годзе ўвайшоў у аргкамітэт Беларускага народнага фронта. На ўстаноўчым з'ездзе БНФ абраны намеснікам старшыні Сойму. Выступаючы за незалежнасць нашай краіны, адраджэнне гістарычнай памяці народа, за дзяржаўны статус беларускай мовы, М. Ткачоў лічыў, што пераход да дэмакратыі, рыначнай эканомікі павінен адбывацца з улікам інтарэсаў працоўных. Ён быў адным з ініцыятараў адраджэння сацыял - дэмакратычнага руху на Беларусі. У сакавіку 1991 года на ўстаноўчым з'ездзе Беларускай сацыял - дэмакратычнай грамады быў абраны старшынёю Цэнтральнай рады партыі.**

**Як навукоўца, грамадскага і палітычнага дзеяча Міхася Ткачова вызначала глыбокае разуменне своеасаблівасці беларускага гістарычнага лёсу, неабходнасці паяднання ўсіх грамадскіх сіл краіны на грунце палітычнага, сацыяльнага і духоўнага адраджэння Беларусі.**

**У некралогу, падпісаным кіраўнікамі Рэспублікі Беларусь, грамадскімі дзеячамі, дзеячамі навукі, культуры, мастацтва, паплечнікамі па барацьбе за Адраджэнне нашай зямлі, гаворыцца:**

**«Светлая памяць пра Міхася Ткачова — таленавітага вучонага, сумленнага грамадзяніна, змагара за адраджэнне Бацькаўшчыны і шчырага абаяльнага чалавека — назаўсёды застанецца ў сэрцах удзячных суайчыннікаў».**

# МОДА КАПРЫЗНАЯ, ЯК...

Не мне першаму належыць гэты крылаты выраз: «Мода капрызная, як жанчына». А яшчэ, дадае ў гутарцы з намі начальнік аддзела перспектыўнага развіцця моды і асартыменту І. Жаваранак, і непастаянная. І Ірына Іванаўна ў кароткай гутарцы расказвае аб рабоце Беларускага цэнтра мод. Гэта адзінае ў рэспубліцы прадпрыемства, якое стварае штогодна тысячы мадэляў адзення на ўсе ўзросты. Шлях навінак і да швейных фабрык і тым больш на прылаўкі магазінаў няпросты. Спачатку ў цэнтры мод шыецца эксперыментальная партыя вырабаў — па 100—300 адзінак: плашчоў, касцюмаў, куртак, якія паступаюць у фірменны салон-магазін. Тут, па сутнасці, і даецца ім «дабро»: калі вырабы раскупліваюцца хутка, то яны і прапануюцца фабрыкам для масавай вытворчасці.

Праўда, і мы, супрацоўнікі рэдакцыі правялі свой эксперымент: паспрабавалі купіць мужчынскі касцюм у тым жа салоне. Але ўжо адзін кошт яго прымусіў адмовіцца ад задумы. Гэтая абноўка абышлася б нам 12 тысяч рублёў (а пакуль пісаўся гэты матэрыял, то касцюм яшчэ падаражэў).

Дык хто ж набудзе такія дарагія вырабы? Аказваецца, купяць, не ў гэтым праблема. Фабрыкі рэспублікі часам не заключаюць дагаворы з цэнтрам мод па прычыне адсутнасці тканін, нізкай іх якасці.

— Да нас прыязджаў сам П'ер Кардэн, — расказвае Ірына Жаваранак. — Казаў, мінскія мадэлі знаходзяцца на ўзроўні еўрапейскіх стандартаў. А па тканінах мы адстаём гадоў на... сто.



Якія тут яшчэ каментарыі! Хаця нешта ёсць і ў нас. Скажам, Ірына Іванаўна наладзіла перад намі невялікую дэманстрацыю мод. Убачылі мы паліто, касцюмы, сукенкі 1993 года. Пашытыя яны былі з выдатнай тканіны, а што тычыцца мадэляў, то і сапраўды не сорамна і на баль, і на прагулку, і на працу пайсці, ды яшчэ і за мяжу павезці...

— Здараецца і вязём,— кажа Ірына Іванаўна. — Летась, напрыклад, са сваёй прамысловай калекцыяй пабывалі ў Грэцыі. Мэта такіх паездак зразумелая: і рынак знайсці для продажу беларускіх вырабаў, і вопыту набрацца... Не падумайце, што мы, як кажуць, варымся ў сваім саку. Адно бяром уласнае, а нешта і запазычваем у іншых краінах. Абменьваемся часопісамі, выразкамі мадэляў. Але найбольш карысным для супрацоўніцтва ўсё ж былі б менавіта выстаўкі, непасрэдны абмен — твар у твар — вопытам з вядучымі мадэльерамі свету. Вось толькі такія сувязі нам не заўжды па кішэні.






Што ж, цяжка цяпер не толькі мадэльерам. Мы ж задаволімся пакуль спадзяваннем на лепшыя часы, надзеяй убачыць распрацоўкі Беларускага цэнтра мод канкурэнтаздольнымі на ўсіх сусветных рынках.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ:** мастак - мадэльер Ніна АСТАПЕНКА (справа) і канструктар Ларыса ХІЛЬКО; мода-93.

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## *СПОРТ*

### СУМНАЯ ВЕСТКА

Сумная вестка прыйшла ў рэдакцыю: на 38-м годзе жыцця памерла заслужаны майстар спорту алімпійская чэмпіёнка Тамара Лазаковіч з Віцебска.

Гэтую спартсменку добра ведалі не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, але і за яе межамі. Як і Вольга Корбут з Гродна, Ларыса Петрык з Брэста, Тамара Лазаковіч у свой час была лідэрам не толькі былога Саюза, але і сусветнай гімнастыкі. Апошнія гады віцябчанка працавала на трэнерскай рабоце. Яе выхаванцы ўжо добра заявілі пра сябе ў многіх спаборніцтвах.

### РАДАВАЦЦА ЦІ ЗАСМУЧАЦЦА?

У Цілбургу завяршыўся буйны міжнародны турнір шахматыстаў. Мы ўжо паведамлялі, што ў фінал выйшаў гросмайстар з Мінска Барыс Гельфанд.

На жаль, тут ён уступіў англічаніну Майклу Адамсаму, які па рэйтынгу ў сусветнай кваліфікацыі стаіць ніжэй нашага земляка. І тым не менш другое месца — гэта таксама вялікі поспех. Да таго ж Барыс Гельфанд атрымаў за турнір значнае ўзнагароджанне — 50 тысяч галандскіх гульдэнаў.

### БАРАЦЬБА ПАД ВАДОЙ

Чацвёрты этап Міжнароднай лігі па плаванню ў ластах прайшоў у Мінску. Удзельнічалі спартсмены Расіі, Венгрыі, Славакіі, Славеніі, Літвы і Беларусі.

Менавіта гаспадары і занялі найбольшую колькасць першых месцаў у асабістым заліку, а таксама першынствавалі і ў камандных спаборніцтвах.

### НАЗВАНЫ САПЕРНІКІ

У Вене прайшла жараб'ёўка ўдзельнікаў адборачных груп першынства свету па гандболу. Сапернікамі беларускіх спартсменаў будуць каманды Ісландыі, Фінляндыі, Харватыі і Балгарыі.

Наша жаночая зборная памераецца сіламі з гандбалісткамі Аўстрыі, Славакіі і Турцыі.

Вынікамі жараб'ёўкі мы можам быць задаволенымі. Сапернікі ў нашых каманд не вельмі моцныя. Так што можна разлічваць на паспяховыя папярэднія гульні і на выхад у фіналы. Рашаючыя сустрэчы пройдуць у Партугаліі (мужчыны) і Германіі (жанчыны).

# З ГІСТОРЫІ ЛУНІНЕЦКАЙ ЦАРКВЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

таму прыхаджане рабілі неаднаразовыя ахвяраванні на карысць храма грашамі ці рэчамі. У 1887 годзе падрадчык Віленска-Ровенскай чыгункі Б. Арлоў ахвяраваў у лунінецкую царкву ікону святога Міколы коштам 150 рублёў. На наступны год, стаўшы падрадчыкам Палескіх чыгунак, ён ахвяраваў да гэтай іконы разную раму. Ветэрынарны ўрач Палескіх чыгунак М. Мігай падарыў храму падсвечнікі, лампады — коштам 50 рублёў, такія ж ахвяраванні зрабіў камендант станцыі Лунінец капітан А. Шрэцар. Прыкладаў такіх многа.

У пачатку XX стагоддзя насельніцтва Лунінца, які стаў буйной чыгуначнай станцыяй, значна вырасла. Адпаведна стала і больш прыхаджан. Старая драўляная царква, якая да таго ж патрабавала пастаяннага рамонту, ужо не адпавядала часу, паўстала пытанне аб будаўніцтве новага храма з цэглы. Вясной 1912 года на тым жа ўчастку, дзе стаяў стары храм, быў закладзены фундамент лунінецкай Крыжаўзвіжанскай царквы, аб чым сведчыць медная шыльдачка, умураваная ў сцяну храма.

Яшчэ да закладкі першага царкоўнага каменя ў Лунінецкім прыходзе быў аб'яўлены збор ахвяраванняў на будаўніцтва новай царквы. Грошы паступалі ад служачых станцыі, настаўнікаў і вучняў, ваенных, прыватных асоб, уладальнікаў прадпрыемстваў, вясковых абшчын, паліцыі і г. д. Вялікія сродкі ахвяравалі ўпраўленне Палескіх чыгунак, кіраўніцтва дэпо, станцыі. Так што царква сапраўды ўзводзілася ўсенародна. Але будаўніцтва працягвалася амаль 10 гадоў. Тлумачыцца гэта проста: першая сусветная вайна, германская і польская акупацыі, грамадзянская вайна, пастаянныя змены ўлады не садзейнічалі ўзвядзенню культавага храма. Шмат дыпламатычнага ўмення давялося прыкласці лунінецкаму свяшчэнніку Цімафею Дзюкаву, каб захаваць будаўнічыя матэрыялы і паціху працягваць узвядзенне храма. У рэвалюцыйныя гады на плошчы ля старой драўлянай царквы часта адбываліся мітынгі. Існуе некалькі тагачасных фотаздымкаў. На адным з іх на заднім плане праглядаецца драўляная царква. На жаль, не знойдзена пакуль добрых фотаздымкаў драўлянай лунінецкай царквы, якая прастаяла ў сяле амаль 100 гадоў. У пачатку 20-х гадоў яе разабралі і прадалі ў нейкую вёску. У 1922 годзе новую цагляную царкву асвяцілі. Яна мела патрэбу не толькі ў культавых прадметах: іконах, харугвах, рызах, але і ва ўнутраным упрыгажэнні. Са старой царквы былі перададзены ў новую многія прадметы, але іх было і мала, і яны былі старыя.

Ва ўмовах пануючага рэжыму апалячвання і акаталічвання насельніцтва праваслаўным прыхаджанам многае было не па сілах, але яны пераадольвалі цяжкасці і па меры магчымасці ўдзельнічалі ва ўладкаванні свайго храма.

Мясцовы мэбельшчык Сцяпан Ішчанка выканаў для новай царквы шмат разных рам і кіётаў для ікон, якія і дагэтуль упрыгожваюць сцены і алтар царквы. Яго сыны Міхаіл і Георгій распісалі столь над алтаром, намалявалі іконы. Можна толькі выказаць шкадаванне, што царкоўныя работы братоў Ішчанкаў былі знішчаны зусім нядаўна пры чарговым рамонце.

Царква перанесла ўсе ваенныя і пасляваенныя выпрабаванні, яе не разбурылі бомбы ворагаў, не закрылі бязбожнікі. І сёння яна ўпрыгожвае горад. Але час бярэ сваё. Пастарэла царкоўнае ўбранства, пашкодзіліся падлога і столь, патрабуюць рэстаўрацыі многія іконы і культавыя прадметы, патрабуе рамонту сам будынак царквы. А цэны па-ранейшаму растуць, і сродкаў на рамонт, рэстаўрацыю, на выраб новых рэчаў пастаянна не хапае. Таму царкоўны савет і звярнуўся праз газету «Лунінецкія навіны» да жыхароў горада з прапановай рабіць добраахвотныя ахвяраванні для фінансавай падтрымкі праваслаўнага храма, каб захаваць гістарычны помнік для нашых нашчадкаў.

**Леў КОЛАСАЎ.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак 2304.
Падпісана да друку 9.11.1992.